

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана:** **Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Калоскамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“,
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 28 (414) — Нядзеля, 3 жніўня 1958 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 12

# Аб падзеях на Блізкім Усходзе

На Блізкім і Сярэднім Усходзе падымаюцца буры пяску. Ужо некалькі дзесяцігодзьдзяў, над усёй вялізарнай тэрыторыяй паўночнай Афрыкі, Леванту й арабскага паўабтоку вее самум — самум арабскага нацыяналізму. За апошнія два гады гэты самум дасягнуў найбольшай сілы й ператварыўся ў ураган. Мяняецца ўвесь ляндшафт, зносяцца й зраўноўваюцца зь зямлёй старыя ўзвышшы, на іхным месцы вырастаюць і зноў зьнікаюць новыя ўзвышшы. Хто знае, што здарыцца ў працягу наступных тыдняў у разьюшаным пяшчаным моры...

Дзяржаўныя дзеячы ўсіх краінаў, асьлепленыя й заглушаныя гэтым самумам, намагаюцца знайсьці якія-небудзь вехі, якія-небудзь цьвёрдыя пункты арыентацыі для акрэсьленьня шляху. Але пясок забівае ім вочы, гул ветру заглушае іх. І ня дзіўна, што, ня глядзячы на самыя найлепшыя намеры яны часам зьбіваюцца з пралажанай дарогі.

Глянем на падзеі апошніх дзён, глянем на іх на гістарычным шырокім фоне. На гэтым фоне можна адчуць дзейнасьць пяці сілаў: гэта, папершае, арабскі нацыяналізм, узьнікненьне якога адносіцца яшчэ да канца 1-ае сусьветнай вайны, да пэрыяду развалу старой отоманскай імпэрыі; падругое — паступовае руйнаваньне пазыцыяў ангельскага імпэрыялізму; патрэцяе — гэта замена ангельскага ўплыву ўплывам амэрыканскім. Пачацьвертае — узьнікненьне ізраэльскай дзяржавы, і, нарэшце, папятае — гэта імкненьне савецкага кіраўніцтва выкарыстаць арабскі нацыяналізм у сваіх мэтах. Вось тыя пяць вятроў, адначаснае дзеяньне якіх выклікае пясчаныя ўраганы на Блізкім і Сярэднім Усходзе.

Паколькі падзеі апошніх дзён былі непасрэдна выкліканыя амэрыканскай акцыяй — высадкай аддзелаў морскай пяхоты ў Лібане — спрабуем разглядзецца перадусім, якія былі матывы амэрыканскага ўраду.

Як-бы не адносіцца да амэрыканскай палітыкі на Блізкім Усходзе, трэба памятаць адзін важны псыхалягічны факт: амэрыканскую палітыку — і паводля ейнай эмацыянальнай накіраванасьці, і па ейных мэтах, нельга разглядаць, як мэханічнае прадаўжэньне старой ангельскай каляніяльнай палітыкі. Уся традыцыя Амэрыкі вызначаецца антыкаляніялізмам. Амэрыка сама — былая калёнія і Амэрыканцы інстынктыўна заўсёды на баку тых народаў, якія змагаюцца за сваю незалежнасьць.

Не гледзячы на гэта Амэрыканцы цяпер зрабілі крокі, якія, здавалася-б, ставяць іх у апазыцыю да арабскага нацыяналізму, які мае антыкаляніяльны характар. У гэтым — парадокс палажэньня. Але перш чым абмеркаваць яго, зірнем на паралельную акцыю Ангельшчыны — высадку авіядэсантных злучэньняў у Ёрданіі.

Ангельская палітыка на Блізкім Усходзе мае зусім іншую гісторыю. Да нядаўняга мінулага Ангельшчына была поўным гаспадаром палажэньня ў гэтым раёне. Але за апошнія гады працэс адыходу Ангельшчыны ад яе старых пазыцыяў зайшоў вельмі далёка. У 1956 годзе было выведзенае апошняе ангельскае войска з зоны Суэскага каналу. У тым-жа годзе Ангельшчына страціла сваё дамінуючае палажэньне ў самой Ёрданіі. Цяпер яна зацікаўлена ў раёне Блізкага Ўсходу толькі эканамічна — большая частка нафты, жыцьцёва-неабходнай ангельскай народнай гаспадарцы дастаўляецца менавіта адсюль. У палітычных-жа й ваенных дачыненьнях раён Блізкага Ўсходу зьяўляецца для Ангельшчыны цяжарам, ад якога яна хацела-б пазбыцца — бяз страты для сваёй бясьпекі й сваёй эканомікі. Агрэсыўнай каляніяльнай дзяржавай Ангельшчына даўно перастала быць.

Што прымусіла абедзьве вялікія заходнія дзяржавы, якія адрозьніваюцца адна ад аднэй сваёй гісторыяй і сваімі дачыненьнямі да каляніяльных народаў, што прымусіла іх цяпер супольна актыўна ўмяшацца ў блізка-ўсходнія справы?

Людзі, якія хоць раз у жыцьці адчулі сілу пясчанай буры, ведаюць, што адзіная магчымасьць ратунку палягае ў тым, каб трымацца паблізу нейкіх цьвёрдых аб'ектаў — будынкаў, дрэваў, скалаў. Толькі такім чынам можна захаваць пачуцьцё кірунку. У блізка-ўсходняй буры такім цьвёрдым аб'ектам можна лічыць палітычны правапарадак. Арыентацыя на законна ўстаноўленыя ўрады, — вось той практычны пункт арыентацыі, якім карыстаюцца цяпер урады ЗША й Ангельшчыны. Гэта аднак не азначае ўвекавечаньня йснуючага цяпер парадку рэчаў. У гісторыі зьмяняецца ўсё, а пры цяперашнім палажэньні на Блізкім Усходзе гэты нармальны працэс ідзе прысьпешаным тэмпам. Прыдзе час, калі ўрады заходніх дзяржаваў улічуць новыя суадносіны сілы на Блізкім Усходзе й зьменяць адпаведным чынам сваю палітыку. Але ні Задзіночаныя Штаты, ні Ангельшчына ня могуць дазволіць таго, каб сьkінуць прыязныя ім урады тым шляхам, які прэзыдэнт Айзэнгаўэр назваў «ускоснай агрэсіяй». Што такое «ускосная агрэсія»? Прэзыдэнт Шамун 15 ліпеня гаварыў аб «прадаўжэньні агрэсіі супраць Лібану шляхам забясьпячэньня паўстанцаў звонку грашыма, зброяй і людзьмі». І калі ўрад Шамуна зьвярнуўся да Задзіночаных Штатаў за дапамогай супраць гэтай ускоснай агрэсіі, Амэрыканцы пастанавілі задаволіць ягоную просьбу, бо ў іншым выпадку яны аддалі-б і Лібан і наагул увесь Блізкі Ўсход на зьнішчэньне разьюшанай анархічнай стыхіі. Тое-ж самае адносіцца й да пасылкі ангельскага войска ў Ёрданію.

Але ўсе гэтыя меркаваньні тычацца галіны тактыкі. У пэрспэктыўных адносінах англа-амэрыканская акцыя бясумліву ўзмоцніць апазыцыю да Захаду тых арабскіх нацыяналістых, якія схіляюцца да прэзыдэнта Насэра. Гэты арабскі нацыяналізм насэраўскага ўзору мае, як вядома, выразны антызаходні характар. Чаму? Ня толькі таму, што да нядаўняга мінулага Ангельшчына і Францыя былі гаспадарамі на Блізкім Усходзе. Гэты стан рэчаў скончыўся, а Амэрыка наагул да яго ня мела ніякіх дачыненьняў. Сутнасьць гэтых антызаходніх настрояў палягае ў іншым — у існаваньні дзяржавы Ізраэль, якая карыстаюцца падтрымкай заходніх дзяржаваў.

І вось тут мы падыходзім да апошняга ў часе элемэнту — пранікненьня савецкага ўплыву на Блізкі Ўсход. Калі пасьля Другой Сусьветнай вайны паўстала пытаньне аб лёсе Палестыны, дык адным з найбольшых абаронцаў новай жыдоўскай дзяржавы быў менавіта савецкі ўрад. Пасьля, аднак, савецкі ўрад пастанавіў, што яму больш выгадна браць арыентацыю не на Ізраэль, а на Арабаў. Савецкі ўрад па сутнасьці здрадзіў Ізраэлю. Заходнія дзяржавы пры ўсёй сваёй зацікаўленасьці ў справе захаваньня свайго ўплыву на Блізкім Усходзе — гэтага зрабіць не маглі й ня могуць. Амэрыка і Ангельшчына прадаўжаюць бараніць інтарэсы дзяржавы Ізраэль. Але тым самым яны набываюць сабе ворагаў у асяродзьдзі арабскіх нацыяналістых. Вось прычыны таго сьмерчу, які круціцца цяпер па ўсім Блізкім Усходзе. Лёгкага выхаду з гэтага палажэньня няма. Ваенныя мерапрыемства Задзіночаных Штатаў і Ангельшчыны, як ужо сказана раней, былі выкліканы меркаваньнямі тэхнічнага характару — імкненьнем абаперціся на нейкія пэўныя аб'екты, у дадзеным выпадку на законныя ўрады асобных арабскіх краінаў.

Але пэрспэктыўнае пытаньне палягае ў наступным: ці ня прывядзе палітыка Задзіночаных Штатаў і Ангельшчыны кіраўнікоў арабскага сьвету, у першую чаргу прэзыдэнта Насэра, да больш цеснага супрацоўніцтва з Савецкім Саюзам? Іншымі словамі, ці ня прывядуць гэтыя мерапрыемствы да зусім адваротнага выніку, што мелі на ўвазе ўрады Задзіночаных Штатаў і Ангельшчыны?

Бліжэйшыя тыдні могуць даць нам адказ на гэтае пытаньне. Пакуль-што адзначым толькі, што арабскія кіраўнікі, у тым ліку і Насэр, уважалі-б бязумоўна за лепшае стаяць паза абодвымі варожымі блёкамі й карыстацца перавагамі такога палажэньня, пры якім яны атрымоўвалі-б крэдыты й тэхнічную дапамогу з абодвух бакоў.

Заява прадстаўніка новага ўраду Іраку ў Нью-Ёрку сьветчыць аб наяўнасьці такіх «нэўтралістычных» настрояў сярод кіраўнікоў арабскіх краінаў.

(Радыё «Вызваленьне»)

# Савецкае выкрыўленьне гісторыі

З нагоды набліжэньня 40-годзьдзя БССР у беларускай савецкай прэсе й друку зьмяшчаецца мноства артыкулаў, прысьвечаных палітычнай гісторыі Беларусі. Гэтае зьявішча можна было-б толькі вітаць, калі-б у іх гісторыя беларускага народу насьвятлялася больш-менш аб'ектыўна. Іхняе-ж заданьне аднак адваротнае, і зводзіцца да сьведамага апраўданьня й замацаваньня расейскага панаваньня над беларускім народам шляхам сьведамага таксама хвальшаваньня ягонай гісторыі. Адным з такіх тэндэнцыйных артыкулаў ёсьць якраз артыкул беларускага гісторыка Н. Каменскай «Вялікі расейскі народ — друг і брат беларускага народу», што быў зьмешчаны ў 6 нумары часапісу «Камуніст Беларусі» бягучага году.

У гэтым артыкуле ў бяздоказны, чыста дэкляратыўны спосаб абагульнена ўся палітычная гісторыя беларускага народу, пачынаючы ад няпамятных часоў да сучаснага мамэнту, але абагульнена так, што Каменская зьвяла гэтую гісторыю да адных толькі выяўленьняў «сымпатыі» й «братэрства» беларускім народам да расейскага народу ды да «клапатлівага» ахоўваньня «нацыянальнае незалежнасьці» першага другім. Прачытаўшы яго, зьдзіўляешся, чаму не згарэў нацыянальна такі народ, які праз доўгія стагодзьдзі толькі й жыў аднымі імкненьнямі спачыць на ўлоньнях свайго «старэйшага брата».

«Вялікі расейскі народ зьяўляецца старэйшым братам беларускага народу, ягоным верным другам і вызваліцелем ад чужаземнага прыгнёту», — сьцьвярджае на пачатку свайго артыкулу Н. Каменская. І гэта адносіцца да сівое гісторыі, калі расейскі народ толькі складаўся з выхадцаў Кіеўскае Русі, Вялікага Ноўгараду й беларускае Смаленшчыны, бо ён як зазначае далей аўтар, ужо ў XIII стагодзьдзі «вызваліў» Беларусь ад татарскага панаваньня, затрымаўшы сваімі плячыма далейшыя татарска-мангольскія заваяваньні. Значыцца, для таго, каб жыў беларускі народ, расейскі народ стаўся ахвярай мангольскіх заваяваньняў, спыняючы цаной свайго «гэраічнага» паступку далейшае татарска-мангольскае пасоўваньне. Гэта аднак «спрычынілася» да тых вынікаў, што беларускія землі былі захопленыя Летувісамі, бо расейскі народ ня мог у той цяжкі час прыйсьці з дапамогай свайму «кроўнаму» брату й аднаплямёнцу» — Беларусам. Летувісы выкарысталі, такім чынам, расейскае паняволеньне і падбілі Беларусаў.

Гісторык Н. Каменская чамусьці стараецца не заўважыць тут тых падзеяў, а пайменна, што Манголы, падбіўшы Маскоўшчыну, Ноўгарадчыну й Кіеўшчыну ў 1237-1241 гадох і стукнуўшыся адначасна з смаленскімі палкамі, а пасьля й з палкамі князя Міндоўга, што складаліся пераважна зь Беларусаў Наваградчыны, Піншчыны, Меншчыны й Полаччыны, але не пераадолеўшы іх, знайшлі чамусьці яшчэ дастаткова сілы зруйнаваць палавіну Польшчы ды прагуляцца так-жа зьнішчальна й у іншых частках Сярэдняе Эўропы. Значыцца, справа тут ня ў тым, што Манголы, зьеўшы свае зубы на Маскоўшчыне, не маглі пагаліцца больш на беларускія землі, але, як выглядае, у тым, што гэтыя, і яшчэ моцныя, зубы Манголаў ня здолелі перагрысьці стальны меч Беларуса. Звычайна гаспадарства мацнее з падбіцьцём чужых народаў. Трэба лічыць, што так было й у выпадку складаньня мангольскае імпэрыі. Іншая справа, калі падобная імпэрыя пачынае раскладацца маральна й фізычна, што ў той час яшчэ не прадбачвалася. А наагулжа, чаму Маскоўшчына адразу ня скінула путаў татарска-мангольскае няволі, калі яна ўжо напачатку так абяздолела гэтых Манголаў, што яны адмовіліся ад далейшых заваяваньняў.

Н. Каменская забываецца таксама й пра тое, што працэс складаньня, а гэта значыць — не раптоўнае заваяваньне ці захапленьне, Вялікага Кляства Літоўскага распачаўся шмат раней татарска-мангольскіх набегаў і закончыўся на беларускіх землях, з выняткам Смаленшчыны, толькі ў палавіне наступнага, XIV стагодзьдзя. Доўга, такім чынам, прадаўжалася «летувіскае заваяваньне» беларускіх земляў. Дзіўна аднак, чаму такое прадоўжанае й «кравапралітнае» змаганьне Беларусаў зь «Летувісамі» ня было выкарыстана тымі-ж Манголамі й іхнім васалам — Маскоўшчынай, што так хварэла за свайго «зьняможанага брата»?

Складаньне Вялікага Княства Літоўскага было такім чынам ня вынікам войнаў, але нутраным працэсам аб'еднаньня беларускіх княстваў у вадно палітычна сцэнтралізаванае гаспадарства. Татарска-мангольская загроза з усходу й поўдня, і нямецкая загроза з паўночнага-захаду спрычыніліся й прысьпешылі гэты працэс.

Аднак, снуючы на маскоўскі капыл гістарычны лёс беларускага народу й даходзячы да абсурдных канцэпцыяў, Н. Каменская пасылае ўсьцяж гэты на-

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Балаган у мясцовай прамысловасьці БССР

Так ужо павялося, што ніводная савецкая газэта й ніводзін часапіс не абыходзіцца без шматлікіх пералічэньняў надзвычайных дасягненьняў ува ўсіх галінах народнай гаспадаркі. Побач з гэтым ахайваецца ўсё, што робіцца ў краінах вольнага сьвету. Гэтак у радыёвых інфармацыях ТАСС за 10 ліпня сёлета спасылаецца на такую хваробу сельскай гаспадаркі ЗША, як «хранічны крызыс перавытворчасьці» сельскагаспадарскіх прадуктаў. А колькі-б было пахвалаў і падзякаў клапатлівай камуністычнай партыі, калі-б у Савецкім Саюзе ці ў краінах «народнае дэмакратыі» было поўнасьцю забясьпечана насельніцтва хоць-бы адным відам прадукцыі сельскай гаспадаркі, прыкладам, малочнымі прадуктамі або мяснымі вырабамі!

На розных сходах і нарадах, пачынаючы ад найбольш адказных савецкіх і камуністычных правадыроў і канчаючы кіраўніком захудалай местачковай саматужнай майстэрні, працоўнаму насельніцтву бязь перапынку ўбіваецца ў галаву, што савецкая прамысловасьць ужо дагнала й абагнала рад краінаў вольнага сьвету.

Апошнімі часамі з балонаў газэт і часапісаў ня сходзяць артыкулы, прысьвечаныя разьвіцьцю хімічнай прамысловасьці. Струмень гэтых артыкулаў быў выкліканы пастановай пленуму ЦК КПСС, які адбыўся ў травені сёлета. На гэтым пленуме па дакладу Хрушчова была прынята пастанова «Аб паскарэньні разьвіцьця хімічнай прамысловасьці і асабліва вытворчасьці сынтэтычных матарыялаў і вырабаў зь іх дзеля задаваленьня патрэбаў насельніцтва і народнай гаспадаркі». На падставе гэтай пастановы прадбачваецца пасьпешнымі тэмпамі павялічыць вытворчасьць штучных і сынтэтычных валокнаў, плястмасаў і іншых сынтэтычных матарыялаў і вырабаў Для ажыцьцяўленьня гэтай праграмы заплянавана пабудаваць і рэканструаваць 257 прадпрыемстваў. У гэтым ліку прадбачыцца пабудаваць і пусьціць у эксплёатацыю 1,0 новых прадпрыемстваў.

Вялізарную праграму разьвіцьця хімічнай прамысловасьці прадбачыцца ажыцьцявіць у 1958-1965 гг., на што будзе патрачана звыш 100 мільярдаў рублёў. З гэтых плянаў ужо робяцца высновы, што вытворчасьць гэтак званых тавараў народнага спажываньня будзе значна павялічана з тым, што за 5-6 гадоў патрэбы насельніцтва ў тканіне, вопратцы, абутку і іншых таварах будуць поўнасьцю забясьпечаны.

Як яно будзе, пакажа час. А ўслужлівая савецкая прэса ўжо авансам адзначае: «Гэтая пастанова зьяўляецца новым яркім сьветчаньнем клопатаў нашай партыі аб выгадах народу, аб палепшаньні яго жыцьцёвых умоваў».

Працоўных Савецкага Саюзу камуністычная партыя абяцанкамі корміць ужо сорак гадоў. Гэтым абяцанкам і розным пастановам ужо мала хто й верыць, бо запраўднае становішча насельніцтва ў галіне забясьпечаньня таварамі сумнае.

«Советская Белоруссия» за 13 ліпеня сёлета зьмясьціла вялікі артыкул, у якім асьвятляецца дзейнасьць Гарадзенскага абласнога кіраўніцтва мясцовай прамысловасьці. Як ведама, на мясцовую прамысловасьць ускладзены абавязак выраблЯць розныя тавары дамашняга ўжытку. Уся мясцовая прамысловасьць звычайна базуецца на мясцовай сыравіне.

«Советская Белоруссия» апісвае гандаль мясцовымі ганчарнымі вырабамі ў раённым цэнтры Горадзеншчыны Радунь. На калгасным рынку прадавец актыўна заклікае калгасьнікаў купляць двухлітровыя гліняныя міскі. Аднак калгасьнікі, глянуўшы на тавар, пасьпешна адыходзяць. Як адзначае газэта, вырабы зусім не падобныя на звычайныя міскі, а выглядаюць больш на «музэйныя экспанаты». Гэтыя «музэйныя экспанаты» былі выпрадукаваныя ў майстэрні пяць гадоў таму назад і, як нягодны на продаж тавар, валяліся ў складзе. Там іх угледзіў прадстаўнік абласнога кіраўніцтва мясцовай прамысловасьці і, ігнаруючы інтарэсы пакупнікаў, загадаў выкінуць на калгасны рынак мястэчка Радунь, папярэдзіўшы сваіх прадаўцоў, каб яны вучыліся гандляваць, бо справа ня ў якасьці тавару, як ён сказаў, але ў здольнасьці яго прадаць.

Выяўляецца, што прадпрыемствы мясцовай прамысловасьці ня лічацца з густам пакупнікаў, ня ўлічваюць патрэбаў мясцовага насельніцтва. На прадпрыемствах выробляецца нізкаякасная мэбля, будаўляныя матарыялы, швэйныя вырабы, абутак і харчовыя прадукты. Усе гэтыя тавары валяюцца ў

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Х-я Канфэрэнцыя Інстытуту Вывучэньня СССР

25—26 ліпеня сёлета ў Мюнхэне, у будынку Нямецкага музэю, адбылася чародная, ужо Х-я навуковая канфэрэнцыя Інстытуту Вывучэньня СССР, гэтым разам прысьвечаная агульнай тэме — «Сучаснае савецкае грамадзтва». Галоўнаю мэтаю канфэрэнцыі было выкрыцьцё міту бесклясавасьці савецкага грамадзтва ды ўскрыцьцё ягонае запраўднае гіерархічнае структуры, асабліва-ж запраўднага статусу новае партыйнае эліты ў межах гэтае структуры.

Тэма канфэрэнцыі была разгорнутая ў пяцёх дакладах: 1) Сацыяльная структура савецкага грамадзтва (праф. д-р В. Сукеніцкі), 2) Пануючая кляса ў СССР (праф. А. Аўтарханаў), 3) Савецкая інтэлігенцыя (Г. Ахмінаў), 4) Работніцкая кляса ў СССР (сп-ня М. Дувар) ды 5) Да пытаньня пра палажэньне сялянства ў СССР (праф. В. Мерцалаў). Па кажным дакладзе адбывалася дыскусія, у якой гэтым разам найперш выступалі прамоўцы, што мелі магчымасьць наперад азнаёміцца з асноўнымі тэзамі дакладаў ды дарыхтавацца да дыскусіі.

Пасьля кароткіх уступных і прывітальных словаў дырэктара Інстытуту праф. В. Мерцалава й амэрыканскага дарадніка праф. О. Фрэдэрыксэна ды абраньня на сталага старшыню цэлае канфэрэнцыі беларускага сябры Інстытуту праф. Ант. Адамовіча, быў выслуханы цікавы даклад добра знанага ўжо з папярэдніх канфэрэнцыяў польскага навукоўца праф. д-ра В. Сукеніцкага пра сацыяльную структуру савецкага грамадзтва — уступны агульны даклад да ўсяе канфэрэнцыі. Прынцыповая нязьменнасьць структуры грамадзтва пры вялікіх пераменах унутры гэтае структуры — асноўнае палажэньне дакладу. У першым, «ленінскім» пэрыядзе савецкае грамадзтва структурна зьбяднела, ня стаўшыся аднак больш аднародным супраць папярэдняга грамадзтва расейскае імпэрыі. Дэзарганізацыя прамысловасьці павяла да зьменшаньня ліку работніцтва, «дыктатура пралетарыяту» забараніла страйкі ды ператварыла прафсаюзы ў наглядны орган гаспадарства. Сялянства дастала зямлю й адбудоўвала ды разбудоўвала на ёй сельскую гаспадарку аж да пары калектывізацыі. Собсьніцкія клясы (з часткаю інтэлігенцыі ўлучна) былі зьліквідаваныя, чым рашчышчалася дарога камуністычным правадыром.

У «сталінскім» пэрыядзе «будаўніцтва сацыялізму», пяцігодак ды інтэнсыўнае індустрыялізацыі лік прамысловага работніцтва падвоіўся, дайшоўшы ўрэшце да 6 міліёнаў, лік гарадзкога жыхарства дайшоў да 55 900 000. Сялянства ўрэшце было загнанае ў калгасы, гэтак зварачаючы гаспадарству назад атрыманую раней ад яго зямлю; замажнейшае сялянства было «зьліквідаванае як кляса» пад мянушкаю «кулацтва». Прымусовая калектывізацыя асабліва спрычынілася да разьвіцьця сыстэмы «працоўных папраўных лягераў», што спарадзіла новую клясу дзяржаўных нявольнікаў-рабоў, лік якіх дайшоў да 30 тыс. ужо ў 1928 г., узрос да 650 тыс. у 1930 г. ды перасягнуў за шмат міліёнаў наступнымі гадамі.

Паступова паўстала й новая кіраўнічая кляса з партыйцаў, «спэцаў», бюракратаў ды часткі інтэлігенцыі. Сама партыя вельмі зьіначылася. Заміж асабістага ідэалізму й ахвярнасьці ды рызыкі ад партыйца пачала вымагацца адна бязумоўная паслухмянасьць.

Сацыяльная структура савецкага грамадзтва аднак ня зьіначылася ані ў сталінскім пэрыядзе «будаўніцтва сацыялізму», ані ў пасьлясталінскім «пабудаванага сацыялізму». Паняволеньне работніцтва йшло далей (асабліва пры падоўжаньні працоўнага дня й замацаваньня за месцам працы «указам» Найвышэйшага савету ад 26 чырвеня 1940 г.) Калгаснае сялянства паплыло ў гарады, лік яго апаў ад 57,9% у 1937 г. да 41,2% у 1955 г., г. зн. на нейкія 15 міл. асобаў. Бальшыня інтэлігенцыі ўлілася ў вадну суцэль з работнікамі й калгасьнікамі, меншыня далучылася да новае кіраўнічае клясы бюракратыі, фактычнае савецкае буржуазіі. У руках гэтае клясы кантроль над вытворствам і людзьмі, лік ейны аднак, разам зь сем'ямі не перавышае 2—3% жыхарства. Савецкае грамадзтва да скрайняе ступені гіерархічнае й мае шмат рысаў эўрапэйскага грамадзтва мінуўшчыны. Упаасобку даклад супаставіў новую кіраўнічую клясу савецкага грамадзтва з расейскім дваранствам імпэрскіх часоў, што выклікала аднак ці не найбольшыя, хоць і не занадта рэчава уваргумэнтаваныя пярэчаньні ў дыскусіі.

Другі даклад пра пануючую клясу ў СССР, зроблены праф. Аўтарханавам (з паходжаньня Чэчэн з Паўночнага Каўказу), выпаў вельмі фаховым ды проста бліскучым. Пануючая кляса — Джыласава «новая кляса» ў СССР — гэта найперш і найбольш кампартыя. У ёй даклад выразьняе тры рэзка абзначаныя сацыяльныя групы: 1) партбюракратыя (кіраўнічая група), 2) службовая бюракратыя (падможная група) ды 3) група фізычнае працы (работнікі й калгасьнікі). Ад свайго ўтварэньня кампартыя СССР дазнала істотных зьменаў.

Ленінавай палітыкаю было ўцягненьне ў партыю работніцтва пры недапушчаньні інтэлігенцыі. Адылі, у 1927 г. «работнікаў ад варштату» ў партыі налічвалася ўсяго 36,7%. XVII партзьезд прыняў рэкамэндацыю прыймаць у партыю адно «актывістых», гэтак адыходзячы ад ранейшага лёзунгу «работнікаў ад варштату». Па розных «чыстках», да XVIII зьезду лік партыйцаў дарос да 2 476 996, але коштам актывістых, зн. найнадзейнейшых сяброў. Пры падборы кіраваліся не сацыяльным, а прафэсійным мамэнтам. Паўстаў падзел на «актыў» і «пасыў», апошні — дзейны адно ў пэўных вызначваных межах.

У 1937 г. Сталін вызнаў гіерархічную структуру партыі за давершаны факт ды нат падзяліў яе на тры вайсковага тыпу корпусы: «генэралітэт» (3—4 тыс. сяброў), «афіцэрскі корпус» (30—40 тыс.) і «падафіцэрскі корпус» (100—150 тыс.). Рэшта партыйцаў, зн. каля 2 міл., выглядала, кваліфікавалася як простыя бязмоўныя жаўнеры.

Вайна прынесла шмат радыкальных зьменаў у структуру партыі. У 1955 г. лік хвабрычных работнікаў у ёй станавіў 44,2%, калгасьнікаў — 41,2%, інтэлігенцыі — 14,1%. Савецкае гаспадарства сталася за крыніцу кармленьня для вялізарнае бальшыні народу й за крыніцу асабістага ўзбагачаньня меншыні — новае клясы, кіраўнічае бюракратыі. З «партыі работніцкае клясы» кампартыя СССР ператварылася ў партыю дзяржаўнае бюракратыі.

Па вайне пры прыйме ў партыю пачалі выразна даваць перавагу інтэлігенцыі перад работнікамі. Адылі, на XX зьезьдзе ўспомнілі, што гэта — «партыя работнікаў і сялянаў» ды прынялі рэзалюцыю цягнуць у партыю з гэтых катэгорыяў. Ды ўсёдна, лікі йдучага году паказваюць, што дзьве трайціны партыйнага актыву ў саюзных рэспубліках — бюракратыя ды інтэлігенцыя.

Цяперашні пэрыяд партыйнага жыцьця, пераходны, вельмі ўдала названы ў дакладзе «пэрыядам асьвечанага сталінізму». І ў гэтым пэрыядзе грамадзкім ідэалам тае-ж пануючае клясы — партыі — застаецца ўлада, неабмежаная й непадзельная. Людзі гэтае клясы — не

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# Савецкае выкрыўленьне...

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

род жабрачыць перад брамай Масквы. Гэтак, паводля ейнага асьветчаньня, апынуўшыся ў «летувіскай няволі», беларускі народ ні на часіну не забывае свайго «старэйшага брата», не забывае свайго «рускага» паходжаньня й імкнецца ўвесь час да «ўзьеднаньня» з расейскім народам. Гэтая тэндэнцыя праяўляецца з асаблівай сілай, аказваецца, падчас войнаў Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўшчынай 1492—1503, 1558—1583, 1654—1667 гадоў. Як прыклад «усямернае дапамогі расейскім войскам» з боку беларускага насельніцтва, Каменская падае «дапамогу» насельніцтва Полацку ў 1563 годзе ці такую-ж «дапамогу» жыхароў Магілёву ў 1654—1667 гадох, і г. д. Спалохаўшыся падобных паводзінаў Беларусаў, «летувіскія» магнаты пайшлі на ганебны паступак і прадалі Вялікае Княства Літоўскае Польшчы вуніяй 1569 году.

Трэба быць аб'ектыўным і прызнаць, што ў войнах заўсёды бывае зрада ці «чаканьне» на лепшае, якое часамі праяўлялася й спасярод Беларусаў, асабліва спасярод сялянства й праваслаўнага насельніцтва, якое жыло ў палавіне XVII стагодзьдзя нявельмі што завідным жыцьцём. Аднак тут ня трэба забываць гісторыку Н. Каменскай тае гістарычнае праўды, што, прыкладам, заняўшы Полацак у 1563 годзе, Іван Грозны вынішчыў ледзь ня ўсё ягонае жыхарства, топячы яго ў цюках разам з Жыдамі ў Дзьвіне, што, перш паддаўшыся ў 1654 годзе маскоўскай арміі, у 1661 годзе ў Магілёве ўспыхнула паўстаньне, у якім быў зьнішчаны поўнасьцю маскоўскі гарнізон у 6000 жаўнераў, ды што Люблінская вунія 1569 году была вынікам нічога іншага, як толькі цяжкага становішча Вялікага Княства Літоўскага, спрычыненага пастаяннымі войнамі з Маскоўшчынай і такіх-жа пасяганьняў на беларускія землі Польшчы. Н. Каменская гэта поўнасьцю прамоўчвае, як прамоўчвае, прыкладам, пераход на бок Ліцьвіноў у часе княжаньня Івана Гразнага шматлікае маскоўскае знаці ўлучна з галоўнакамандуючым Лівонскай апэрацыяй князем Курбскім. Ведама, яна назаве падобны крок простай «здрадай», але ўсё-такі ня выпадае відавочны генэцыд абазначаць «народным імкненьнем да ўзьеднаньня», ня выпадае шукаць беларускаму селяніну «шчасьця» ў Маскоўшчыне, як ня выпадае наагул уяўнае пераапранаць у «гістарычнае».

Нічога няма больш абсурднага, як гэтае асьветчаньне гісторыка Н. Каменскай: «Узьеднаньне Беларусі з Расеяй адбылося ў канцы XVIII стагодзьдзя. Гэтая падзея мела вялізарнае прагрэсыўнае значэньне для беларускага народу. Пад уплывам больш разьвітай эканомікі Расеі, пад узьдзеяньнем багатай культуры расейскага народу сталі хутчэй разьвівацца прадукцыйныя сілы й культура Беларусі. **Яе насельніцтва было вызвалена ад чужаземнага рабства».** Спахапіўшыся, Каменская дадае: «Праўда, яно апынулася пад няволяй царскага самадзяржаўя. **У. І. Ленін указваў, што царская Расея была «турмой народаў».** Нашае грамадзтва знае, што беларускаму народу прынясло й нясе расейскае панаваньне, а таму тут ня трэба асаблівых паясьненьняў. Аднак акая бяздарная гісторык Н. Каменская? Каб ня было Леніна, дык яна й ня знала-б, што Расея была турмой народаў! Цікава яшчэ запытацца ў аўтара прыведзенай цытаты, што ён разумее пад «чужаземным рабствам» і чым розьніцца ад яго расейскае рабства?

Наагул-жа Каменская збудоўвае свой артыкул так, каб ім апраўдаць цяперашняе расейска-савецкае панаваньне ў Беларусі. Гістарычная аргумэнтацыя ў ім падмененая сьпяваньнем славы «вялікаму расейскаму народу». Якое жудасна-беспрынцыповае нявольніцкае падхалімства! Сьведамыя Беларусы ў ім выступаюць затое й «ворагамі працоўных», і «лакеямі» буржуазыі, і »здраднікамі», што «імкнуліся адарваць Беларусь ад Савецкае Расеі, ператварыць яе ў прыдатак сусьветнага імпэрыялізму». Адным словам варты падарунак 40-годзьдзю Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

П. Залужны

# Балаган ў мясцовай прамысловасьці БССР

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

складах, бо якасьць іх таксама дрэнная, што навет непатрабавальны пакупнік адмаўляецца на іх марна траціць грошы.

Больш таго прадпрыемствы мясцовай прамысловасьці ўхіляюцца ад вытворчасьці надзвычайна патрэбных насельніцтву звычайных сталоў, табурэтак, не дарагіх адзежных шафаў. Ні за якія грошы ў крамах Гарадзеншчыны не дастаць дайніцы, патэльні, качаргі, відэльцаў, цабэрка, начовак. Калгасы ня могуць і ня маюць дзе купіць звычайнае дугі або каламазі. Прыпынілася вытворчасьць дзіцячых цацак, сталярскага клею, няма чым закітаваць акна.

Дырэктар Мастоўскага раённага прамысловага камбінату згодна з дырэктывай абласнога кіраўніцтва арганізаваў выраб адзежных шафаў коштам 1050 рублёў за штуку. Шафы вельмі дарагія, але якасьці зусім дрэннай. Ахвотнікаў купляць іх вельмі мала.

Асабліва шмат недахопаў у рабоце прадпрыемстваў будаўляных матарыялаў. Толькі за шэсьць месяцаў мясцовая прамысловасьць не дадала будаўляным арганізацыям 1380 тонаў вапны, каля 300 тысяч штук глінянай чарапіцы, вялізарную колькасьць гонты, цэглы й інш. На Лідзкай цагельні размокла пад дажджом з прычыны недагляду звыш 40 тысяч штук цэглы-сырца. Гэтая-ж цагельня выпусьціла 200 тысяч штук нікуды нягоднай чарапіцы.

Дзеля палепшаньня працы прадпрыемстваў мясцовай прамысловасьці абкомам КПБ і аблвыканкомам прынятыя «канкрэтныя захады». Із свайго боку абласное кіраўніцтва мясцовай промысловасьці выдала толькі ў траўні сёлета 273 розныя цыркуляры, інакш кажучы па адзінаццаць цыркуляраў за адзін працоўны дзень. Прадпрыемствам выслана шмат загадаў, прыдуманых і нярэальных графікаў і г. д. Толькі ў вабласным кіраўніцтве мясцовай прамысловасьці працуюць 34 інжынеры. Ніхто іншы, як не яны, складаюць пляны і пасылаюць іх майстэрням.

Але як складаюць гэтыя пляны? Рудзенскаму раённаму прамысловаму камбінату 20 чэрвеня сёлета было прапанавана вырабіць глінянай пасуды ёмкасьцю 20 тысяч літраў. Дык як-жа тады можна чакаць разнастайнага й шырокага асартымэнту місак, гаршкоў і збаноў! Патрабуецца толькі агульная ёмкасьць, а ня колькасьць.

Мімаволі прыпамінаюцца старыя дабальшавіцкія часы. На местачковых кірмашох заўсёды быў вялікі асартымэнт прыгожых гліняных вырабаў. Гаршкі, міскі, слоікі, збанкі, кубкі, глячкі сваім прыемным выглядам прываблівалі шмат беларускіх жанчынаў. Любілі жанчыны адбіраць паліву з чыстым цокатам, які паказваў, што міска або гаршчок ня трупцявыя. Сялянкам падабалася паліва Івянецкіх майстроў з пад Менску або Копыськіх з пад Воршы. На радасьць і ўцеху дзецям з гліны выраблялiся конікі, кукуці, пеўнікі, козьлікі ізь сьвісьцёлкамі, якія ў вялікай колькасьці выраблялiся й прадаваліся ня толькі на кірмашох, але разам зь іншай палівай развозіліся па вёсках.

Сучасная беларуская савецкая рэчаіснасьць характарызуецца магутнымі трактарамі, 40-тоннымі самазваламі, камбайнамі, вялізарнымі гідраэлектрастанцыямі, а савецкая тэхніка ў сусьвет запускае «спадарожнікаў» зямлі. Але адначасна з гэтымі дасягненьнямі для калгасьніка й работніка зьяўляецца вялікай праблемай набыць дзіцячую калыску, возік, купіць найбольш простую й прымітыўную дзіцячую цацку, не гаворачы ўжо аб іншых неабходных рэчах. Выходзіць, што, як кажа беларуская прыказка, «каўнер шырокі, а пяты голыя».

В. Б.

**Проф. Др. Я. Станкевіч** 4)

# Гісторыя Беларусі
## і расейская чорная сотня

«Каталіцкі дух Горадзельскай вуніі адказвае ў даную часіну інтарэсам Вітаўтавым. Гэта дарога, каб паралiжаваць падзьдзяржаньне Ордэну Заходняй Эўропаю, дарога здабыцьця сымпатыяў на Заходзе. На Канстантскім саборы польскія й літоўскія паслы дабіваюцца ўстанаўленьня катэдры і апрычонага біскупства на Жмудзі, вядуць перамовы пра вайну з Туркамі, просяць навукі й помачы ў справе прылучэньня да адзінае каталіцкае царквы праваслаўных схізматыкаў. Польшча і Літва выступаюць перад заходня-эўрапэйскім сьветам у новым сьвятле. Гэта пярэдняя стань заходняе культуры, апора заходняга сьвету супроць й схізматычнага Ўсходу... Вялікія князі (Вітаўт і Ягайла) вядуць дружна дыпляматычны паход, каб вырваць меч із рук Ордэну Крыжакоў і дзеля зьвязкаў паміж двума варагамі — Ордэнам і цэсарэм Жыгімонтам шукаюць апірышча ў папежа як сілы, здольнай паралiжаваць і скампрамітаваць варожую палітыку галавы Сьвятога Рымскага Цэсарства й Тэўтонаў. Вітаўт дабіваецца нат пратэктарату над Дэрцкім біскупствам»[24].

Што рэлігійныя абмежаваньні Горадзельскага прывілею мелі вылучна дыпляматычныя заданьні, відаць таксама з таго, што неўзабаве пасьля Горадзельскага акту Вітаўт прыняў із рук гусітаў чэскую карону і паехаў да Чэх за свайго намесьніка Жыгімонта Карыбутавіча.

Расейскія русыфікацыйныя выданьні стараюцца даць «змове» князёў 1481 г. — Івана Гальшанскага, Міхала Алелькавіча і ягонага сваяка Хведара Бельскага — характар рэакцыі на перасьледваньні «рускага элемэнту ў Літве» або праваслаўных. Змова была выкрыта, два першыя змоўнікі былі пакараныя сьмерцяй, а «Бельскі ўсьпеў уцячы да Масквы і тут хіба даваў землі «Па Бярэзіну»[52]. Прасьнякоў прыходзіць да вываду, што «Гэта была «змова князёў» «дынастычна-радавая». Мы ведаем імёны адно трох удзельнікаў. На «землі» яны не апіраліся. Кіеўскія баяры зрадзілі Алелькавічам і пры сваёй зрадзе й засталіся. Ня болей пераконваючая спроба зьвязаць «змову князёў» 1481 г. з пытаньнямі царкоўнага жыцьця».

«Палітыка князёў сваеасабліва асьвятляецца подпісамі Міхала Алелькавіча, Хведара Бельскага, Змітры Земскага пад лістом Міхаіла мітрапаліта 1476 г. да папежа з выказаньнем пажаданьняў пра ўзнаўленьне перамоваў пра вунію дзеля таго, каб прывесьці ў любоў і пагадзіць абедзьве царквы із захаваньнем абрадаў і наагул царкоўнае практыкі абедзьвюх; пры гэтым ліст адначасна падчырквае і прызнаньне папежа за найстаршага сьветнага ўсеначэльнейшага пастыра (як на Флёрэнскім саборы)... Пры такіх умовах цяжка казаць пра рэлігійныя матывы» (змовы). Палітычна-дынастычныя матывы «змовы князёў» 1481 г. выступаюць даволі выразьліва. Пра рэлігійныя матывы сучасныя ведамкі не гавораць... А найважней — нябыцьцё подаў на прызнаньня, каб за гэтай змоваю стаяў які-колечы цямкі грамадзкі рух»[26].

Таксама паўстаньне М. Глінскага 1506 г. ня мела нічагусенькі супольнага з праваслаўем. Глінскі быў каталік, заставаўся ён каталіком і апынуўшыся ў Маскве пасьля паўстаньня. І толькі, калі, пераканаўшыся ў сваёй абмыле, варочаўся да Беларусі, быў злоўлены Маскалямі і пасаджаны ў турму, тады, каб вызваліцца з турмы, перайшоў з каталіцтва на праваслаўе.

Прычына «змовы князёў» 1481 г. і паўстаньня Глінскага была ў імкненьні Міхала Алелькавіча ў першым прыпадку і Міхала Глінскага ў другім самому стацца вялікім князем Літвы.

Хочучы ў найгоршым сьвятле паказаць палажэньне праваслаўнае царквы ў Беларускім гаспадарстве, чарнасоценцы, ня лічачыся з праўдаю, галаслоўна пералічаюць прыпадкі перасьледаваньня праваслаўных. Гэтак яны, бывае, кажуць, што ў 1764 г. была ўстаноўлена кара сьмерці тым, хто пераходзіў з рымскага каталіцтва на праваслаўе. У Беларусі ня было гэтага. Нашто было-б такое права? Рымскімі каталікамі былі толькі паны (ня ўсе) і часьць шляхты. Мы ня ведаем прыкладаў, каб хто зь іх хацеў пераходзіць із каталіцкае на праваслаўную веру.

«У 1699—1795 гг. — цьвердзяць чарнасоценцы — у ніводнай епархіі не дапусьцілі праваслаўнага япіскапа». Яўная няпраўда! Успомнім хоць-бы магілеўскага япіскапа Каніскага. Зрэшты ад расейскае чорнае сотні і спадзявацца нічога іншага нельга, заданьнем іх ёсьцека, ня перабіраючы ў сяродках, хадацца супроць вызвольных імкненьняў паняволеных Расеяй народаў. На тое, як запраўды было, я прывяду сьцьвярджэньні вучоных дасьледавальнікаў. Гэтак праф. А. Савіч кажа:

(У XV стг.) «землі праваслаўных цэркваў і манастыроў адзержылі тыя палёгкі, каторымі карысталіся каталіцкія цэрквы й манастыры»[27].

Праф. Уладзімер Пічэта:

«Вялікакняскі прывілей з 26-га сьнежня 1906 г., выданы на імя Полацкага ўладыкі, вызваляў царкву і царкоўнае жыхарства ад падсуднасьці сьвецкіхураднікаў. У істоце гэты прывілей не ствараў ніякіх новых праўных нормаў, адно пацьвердзіў тыя правы, каторымі фактычна карысталася праваслаўная царква (гл. Довнар-Запольский. Акты Литовско-русского государства, № 4 і 5; Леонтович. Акты, 679; Сапунов. Витебская старина, № 17). Лісты ўдзельных князёў, выдаваныя праваслаўным цэрквам, зьмяшчалі палёгкі такога-ж роду і вялікакняскі ўрад (Літвы) лічыўся з гэнымі лістамі і прызнаваў іх праўную сілу і значэньне (Акты Зап. Росии, І, № 77; Леонтович. Акты, № 49, 28)»[28].

Пішучы пра царкоўнае земляное права, Ул. Пічэта кажа: «Земляное права праваслаўнае царквы разьвівалася аналягічным парадкам (як каталіцкае царквы)... У гэтым дачыненьні праўнае палажэньне каталіцкае й праваслаўнае цэркваў было зусім чыста аднолькавае. Маемасьць абедзьвюх цэркваў была вольная ад вайсковай павіннасьці, і абедзьве цэрквы мелі поўны імунітэт што да люднасьці, каторая жыла на іхных землях»[29].

Праф. В. Дружчыц: (У Вільні, як і ў іншых местах беларускіх, апрача мяшчан, жыло духавенства, паны й шляхта). «З гэтае прычыны ўтвараюцца й розныя ўлады і прысуды (юрысдыкцыі), якім падлягае кажны стан. Паны падлягаюць вайводзе або беспасярэдна ўладзе вялікага князя, шляхта — замковаму прысуду (на чале яго стаяў вайвода), духавенства мае свой прысуд: біскуп каталіцкі — адзін, мітрапаліт праваслаўны — другі, а з утварэньнем вуніяцкае царквы зьяўляецца прысуд і вуніяцкага мітрапаліта»[30].

«Блізка 1589 г. Жыгімонт III выдае прывілей, каторы забясьпечвае як царкоўную маемасьць, так і самае праваслаўнае духавенства. У ім кароль кажа, што «будучы фундатарам і найвышшым абароньнікам цэркваў Божых і наданьня іх, стан духоўны закону Грэцкага, ні ў чым ня ўзрушаючы, у цэласьці і пры зупоўнай моцы і ўладнасьці, у зацнасьці і дастаенстве, яка і духавенства закону Рымскага заставуем»[31]. Гэты прыві-

# Беларускія жніўныя абрады

**Ад Рэдакцыі:** Гэты артыкул напісаны Беларусам з Польшчы, які з прыемнасьцю друкуем на бачынах нашае газэты.

✶

Глыбака ў мінуўшчыну сягаюць абрады, звычаі і традыцыі, зьвязаныя з пачаткам і канцом палявых работ. Гэтыя звычаі і абрады зь невялікімі адменамі ведамыя ўсім земляробскім плямёнам у мінуўшчыне, а ў сучаснасьці ўсім, перадусім усходня славянскім, народам. Аб старадаўнасьці жніўных абрадаў спатыкаем ужо ў XIII стагодзьдзі — у летапісе Ізмарагда з 14-га веку выразна кажацца: Праздноваті зажынаньню».

Ад найдаўжэйшых гадоў нашыя прапрадзеды займаліся земляробствам. З гэтага і паўсталі народныя сьвяты, звычаі і песьні, якія маюць характар цесна зьвязаны з жыцьцём селяніна-земляроба, каторы ўсе імкненьні, ідэю і думку мае аб ураджаю, што бязумоўна творыць дабрабыт і багацьце вёскі.

Адначасна трэба ўспомніць яшчэ адзін звычай, які цесна зьвязаны сваім характарам з жніўнымі звычаямі — гэта талакой, якая ведамая ўсім славянскім народам. І гэта дае нам доказ аб старадаўнасьці гэтага звычаю, каторы, як трэба дадумывацца, бярэ свой пачатак з часоў першабытнага грамадзкага ладу, з часоў бясклясавасьці.

Талака — гэта калектыўнае, супольнае выконваньне ўсіх цяжэйшых прац — засталася і па сяньняшні дзень: як вывазка лесу зімой, пераношаньне будынкаў зь месца на месца, а часта і самая будова, сенакосы, вывазка гною на поле, а перадусім жніво і звозка жыта. Такая супольная праца выконваецца бясплатна тое толькі, што адбываюцца багатыя ўгашчэньні-пачастункі, ведама з гарэлкаю.

Усе ўспомненыя работы апяваюцца шматлікімі песьнямі, у якіх адлюстроўваецца цяжар працы і яе характар. Знойдзем тут вялікую колькасьць і песень сямейнага характару, у якіх апяваюцца адносіны сьвякроўкі да нявесткі, мачыхі да сіраты і г. д. Спатыкаем такжа і песьні выразна феадальнага характару: нялюдзкія адносіны паноў і падпанкаў да сваіх прыгоньнікаў.

Жніўныя абрады можам падзяліць на тры этапы: зажынкі, жніво і дажынкі. Найбольш багатыя ў звычаях гэта акт дажынкаў. Аднак і пры зажынках адбываюцца яшчэ дзе-ня-дзе тыя ці іншыя цэрэмоніі.

Зажынаць жыта выходзіць невялікая колькасьць жней, якія забіраюць з сабой хлеб, соль і сыр, а часам і грамнічную сьвечку. Шмат у якіх мясцовасьцях зажынаючы пяюць:

«Добры дзень Гаспадару Богу,
Жыту ядранаму, хазяіну палявому!
— Здароў, здароў, жнеі маладыя!
— Сярпы залатыя!»

Першую жменю зжатага жыта зьвязваюць істужкаю або жытнім вязьмом (пярэвяслам), прыносяць дамоў і стаўляюць на пачэсным месцы — за сталом на покуці пад абразамі. Гэты сноп называецца «Гаспадар». Зжаўшы адну ніву і пераходзячы на другую, пяюць:

«Ніўка, ніўка!
Аддай маю сілку
На другую ніўку,
А я-ж цябе жала
І сілку спацярала,
Нашы жнейкі маладыя
Іх сярпы залатыя».

Зусім натуральнае зьявішча, што жніво — гэта добра заслужаная плата за цэлы год рупнай і мазольнай працы — зьяўляецца на працягу ўсяе земляробскай дзейнасьці найбольш урачыстай і радаснай хвілінай. І таму вельмі шмат маем абрадаў, звычаяў і песьняў, цесна зьвязаных ізь сьвяткаваньнем дажынкаў.

Асабліва радасна кажны гаспадар чакае хвіліны, калі прыходзіцца яму зьбіраць апошнія снапы з поля. Падгатаўляецца да гэтага старанна, запрашае суседак і рыхтуе для іх добры пачастунак.

У вызначаны для дажынак дзень прыходзяць запрошаныя жнеі, сьнедаюць і ідуць у поле, дзе сустракае іх нязжатая яшчэ палоска. Дружна і вясёла, зь песьняю бяруцца яны за работу, а калі ўжо набліжаецца канчатак, жнейкі кладуць свае сярпы. З маленькага, нязжатага кавалачка, пакінутага адумысна, адна з выбраных прыгажэйшых жнеяк зрывае сьцяблінкі і складае іх у вапошні сноп, які ўсе жнеі супольна вяжуць. Гэты сноп называюць «Бабаю». Часам перавязваюць яго хусткай і апранаюць у сарочку (кашулю). Нязжаты кусочак нівы называюць «завіўкай барады», «гаспадаровай барадой» або «казьлінай барадой».

Памінаньне казла ў жніўных песьнях і абрадах зьяўляецца гэта, як кажа Пацебень і Маннгардт, нейкай істотай з глыбокай старадаўнасьці, падобнай да казла, які ёсьць «душой нівы», апякуном жытніх палеткаў, як напрыклад Фаўн ці Сільван.

Недажаты кусочак нівы жнеі полюць, рвуць і завіваюць «бараду«. Завіваюць яе толькі з самых калосьсяў, якія кладуць у сноп і ўплятаюць у вянок, сьпяваючы:

«Сядзіць казёл на мяжэ,
Дзівуецца барадзе...
— Бароданька, барада!
Уся дзёгцям уліта,
Аўдотанька, ня гуляй,
Бяростаньку абірай!
Аўдотанька не ляжы,
Бяростаньку abліжы!
Ішоў казёл па мяжэ,
Дзівуецца барадзе:
— Чыя-ж гэта барада
Уся мёдам абліта,
Уся шоўкам абвіта?
— Любушка, ня гуляй,
Чорны шоўк абматай!
Любушка, не ляжы,
Бароданьку абліжы!»

Салому, абарваную ад гэтых калосьсяў, выбраная жнейка кладзе накрыж на зямлі. На гэтым саламяным крыжы, на сярэдзіне і па бакох кладуць хлеб. Часам недажатае жыта пакідаюць у полі птушкам і зьвяром за тое, што яны выпрасілі ў Бога жыта і ад той пары чалавек мае хлеб. У некаторых мясцовасьцях Беларусі некалькі каліваў жыта закопваюць у зямлю для мышэй.

Калі ўжо ёсьць сноп-баба, завітая барада і сплецены вянок, тады выбраная жнейка кладзе сабе вянок на галаву і мянуецца царыцай дажынак. Пад яе кіраўніцтвам усе жнеі ідуць у кірунку вёскі, сьпяваючы:

«А ў нас сягоньня вайна была,
Усё поле зваявалі.
У копачкі паскладалі.
Дзе горачка — там копачка;

Дзе лажочак — там стажочак».

У песьнях, якія сьпяваюць па дарозе ў вёску, выказваюцца пажаданьні атрымаць ад гаспадара заслужаны пачастунак:

«Зьмялі поле мяцёлкамі,
Ідзем у двор вясёлкамі.
Засьцілайце сталы, лавы,
Ідуць госьці нябывалы;
Адчыняйце шчытовы вароты,
Ідуць жнейкі з работы».

Падышоўшы на панадворак, чакаюць аж выйдзе на сустрач сам гаспадар. Пры гэтым пяюць:

«Добры вечар, паночак,
Зьнімі з галоўкі вяночак,
. . . . . . .
Не хавайся, пане, пад лаву,
Ды выйдзі да нас на расправу:
А мы будзем распраўляцца,
За вяночак таргавацца.
Мы будзем рубля браці,
Бо нам было цяжка жаці,
Дай нам, пане, чырван злоты,
Бо мы жалі для ахвоты».

Гаспадар выходзіць на спатканьне жнеяк. Тады жнейка царыца здымае зь сябе вянок, які сымбалізуе пахвалу і пашану, і ўскладае яго на галаву гаспадара, каторы павінен за гэта заплаціць царыцы пачастункам.

На запросіны гаспадара ўсе ідуць у хату. У сенцах спатыкае іх гаспадыня, трымаючы ў руках хлеб, соль, сыр ці сала і гарэлку, і адразу частуе, а калі вячэра ўжо гатова, запрашае жнеяк за стол.

Увайшоўшы ў хату, жнейкі стаўляюць сноп-бабу ў кутку пад абразамі, пазьней садзяцца за стол, частуюцца і п'юць за здароўе гаспадароў. У некаторых мясцовасьцях жменька зажынкаў, вянок і сноп-баба перахоўваюцца да наступнага году-жніва..

І тут, за сталом жнеі пяюць песьні, выхваляючы гаспадароў за іх багацьце і гасьціннасьць:

«Высок явар, высок,
Над усімі палямі.
А багат наш пан, багат
Над усімі панамі.
У полі капамі,
У гумне стагамі,
Ані ўвайсьці, ані ўехаць,
Ні сокалу ўляцеці,
Толькі пану паглядзеці».

Пасьля такой вячэры нярэдка адбываюцца гульні і скокі да самай раніцы.

Часта спатыкаецца ў жніўных песьнях «рой», «раёк»:

«Ішоў раёк дарогаю шырокаю...» і г. д.

Ёсьць гэта рой працавітых пчол, які мае быць сымболем працавітых жнеяк.

Спатыкаем так-жа «спарыш», што адлюстроўвае багацьце і ўраджай.

У некаторых жніўных песьнях адбіваецца цяжар жніўнай працы. Песьні гэтыя засталіся з тэй пары, калі на неабсяжных прасторах панскіх двароў, ад цямка да цямна, без адгібу — жнеі-прыгоньніцы, над каторымі стаяў зь бізуном панскі цівун-падпанак — цяжка працавалі. Акадэмік Карскі аб жніўных песьнях у Беларусі сказаў: «От них веет довольством, теплотой летнего вечера и ароматом только что зжатой нивы». Мы аднак-жа ў гэтых прыгонна-жніўных песьнях чуем глыбокі і цяжкі стогн працуючых вякамі на пана і паўпанка. Мы ў гэтых песьнях чуем жальбу і бунт мільёнаў галодных і пакрыўджаных людзей. З прыгонна-жніўных песьняў нясуцца ў шырокі прастор праклёны і клічы да прыроды і зьвяроў:

«Бадай пану ў двары страшна,
Як нам у полі сонца зайшло.
Сонца зайшло, а мы жнема,
Пры месяцы снапы носім.
. . . . . . . . .
Бадай пана не хавалі,
Каб сабакі разарвалі,
Каб сабакі разарвалі,
Каб па пану ваўкі вылі,
Бадай пана грамы ўбілі,
Як мы ручкі патамілі.
. . . . . . . . .
Наш пан-баран, баран,
Ня пушчае жаньцоў зарань.
Дзяржыць жаньцоў да вечара.

(Закончэньне на 4-ай бачыне)

# Х-я Канфэрэнцыя Інстытуту Вывучэньня СССР

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

ідэялёгі, а тэхналёгі ўлады й уладаваньня.

Першыя два даклады таму й зрэфэраваныя тутака падрабязьней і грунтаўней, што яны выпалі найлепш на канфэрэнцыі. Рэшта дакладаў — пра інтэлігенцыю, работніцтва й сялянства — часта адбягалі ў сваім выкладзе ад асноўнага разрэзу канфэрэнцыі — сацыяльнае структуры савецкага грамадзтва, не даючы ў гэтым разрэзе нічога бадай новага й арыгінальнага. Асабліва гэта датычыць да дакладу пра інтэлігенцыю, які выклікаў вялікую крытыку ў дыскусіі. Тым ня менш, былі й у гэтых дакладах цікавыя й вартыя ўвагі ў іншых разрэзах рэчы, нат у дакладзе пра інтэлігенцыю, хоць у гэтым апошнім часьцей парадаксальныя. Агулам бяручы, даклады й дыскусіі паказалі ўсё-ж далейшы рост Інстытуту, як гэта й было адзначана ў заключным слове старшыні канфэрэнцыі.

Па канфэрэнцыі, 28—29 ліпеня, як звычайна, адбылася чародная гадавая асамблея сяброў Інстытуту, на якой былі разгледжаныя справаздачы зь дзейнасьці Навуковае Рады й Дырэкцыі, пляны дзейнасьці й фінансаваньня на наступны 1958—59 год, розныя прапановы органаў і сяброў Інстытуту, а таксама праведзеныя выбары органаў на новую кадэнцыю.

Із справаздачаў было відаць, што ў ліку выданага Інстытутам за справаздачны год былі 3 нумары «Беларускага Зборніка» пабеларуску (№№ 7, 8, 9) ды 2 паангельску (№№ 5, 6), манаграфія Г. Нямігі пра Беларускую Акадэмію Навукаў пабеларуску ды Ант. Адамовіча пра супраціў беларускае літаратуры да савецізацыі паангельску. У 1958 г. рассылаецца 1 708 паасобнікаў «Беларускага Зборніка» пабеларуску (супраць 1 330 летась) ды 2 554 паангельску (супраць 2 458 летась).

У плянах выдавецтва на наступны год выданьне 2 нумароў «Беларускага Зборніка» пабеларуску (№№ 10, 11) ды 2 паангельску (7,8 — адзін зь іх як адмысловы зборнік пра 40 -я ўгодкі БССР), а таксама манаграфіі У. Сядуры пра долю беларускае культуры пад Саветамі (на 7 друкаваных аркушаў, панямецку). Апрача таго, беларускія праблемы знойдуць насьвятленьне й у калектыўных зборніках Інстытуту, зь якіх зборнікі пра камсамол і праблемы сельскае гаспадаркі выйдуць, а зборнікі пра нацыянальную палітыку бальшавізму ды пра савецкага чалавека будуць падрыхтаваныя да выданьня ў наступным годзе.

З прапановаў органаў Інстытуту на найбольшую ўвагу заслугоўвае прынятае й уведзенае ў статут палажэньне пра надзвычайных сяброў — пачэсных і карэспандэнтаў; сьпіс іх, у якім, як трэба спадзявацца, будуць належна рэпрэзэнтаваныя й Беларусы, Навуковая Рада прадставіць на разгляд наступнае асамблеі налета.

З прапановай сяброў Інстытуту трэба адзначыць паданую нью-ёркаўскімі сябрамі (Ант. Адамовіч, М. Ветухіў, Г. Султан, Ю. Таскін, З. Тоган, А. Філіпаў) пра паступовую рэарганізацыю Інстытуту на аснове нутраное спэцыялізацыі паводля катэдраў ды ўпарадкаваньне выдавецтва. І гэтая прапанова, як і шмат іншых (на гэтай асамблеі выстаўленьне й абмеркаваньне прапановаў сябрамі было як ніколі ажыўленае), перададзеныя на распрацаваньне й канчальнае афармленьне, а ў магчымых выпадках і ўжыцьцяўленьне ў цягу працы.

Новых сяброў сёлета асамблея ня прыймала, за выняткам заступнікаў трох выбылых сяброў з расейскіх навучоных. Справу пашырэньня асамблеі зусім новымі сябрамі перададзена Навуковай Радзе на апрацаваньне й прадстаўленьне наступнай Асамблеі. Сама Навуковая Рада пашыраная на аднаго сябру — прадстаўніка навучоных Крыму.

Дырэкцыя пераабраная ў старым складзе яшчэ на год (дырэктар праф. В. Мерцалаў, заступнік — праф. І. Бакала, навуковы сакратар праф. М. Мілер). У Навуковую Раду новым сябрам ад Крыму ўвайшоў д-р Э. Кірымал, некаторыя старыя сябры замененыя новымі (у Украінцаў — праф. Б. Мартос — праф. П. Фэдэнкам, у Расейцаў — памерлы праф. А. Зоргенфрай ягонай удавой Р. Зоргенфрай), рэшта, у тым ліку й беларускі прадстаўнік д-р Ст. Станкевіч, засталіся пастарому.

Навуковая Рада абрала новы прэзыдыюм у складзе д-ра Ст. Станкевіча як Старшыні, Туркестанца д-ра Бэрдзі-Мурата, Азарбайджанца рэд. Мірза-Балы ды Расейца праф. Новак-Дэкера як заступнікаў, а праф. Я. Вакуленкі як сакратара.

**Супрацавень**

---

лей быў выданы як абарона ад дамаганьня шляхты (праваслаўнае й каталіцкае), каб людзі, жывучыя на касьцельных або царкоўных землях, адбывалі гаспадарствавыя павіннасьці.

Згодна зь менаваным і духавенства праваслаўнае дзейна прыяла Беларускаму гаспадарству, што асабліва праяўлялася ў часе войнаў Беларусі з Маскоўшчынаю. Гэтак, прыкладам, у 1514 г. уладыка смаленскі Варсанов праявіў вялікую дзейльнасьць, каб зьвярнуць Смаленск назад Беларускаму гаспадарству[32], за што быў пакараны маскоўскім акупантам.

Ад канца XVI стг. і блізу ўсю першую чэцьверць XVII стг. смаленскае духавенства (ведама праваслаўнае), разам зь іншымі Смальнянамі,, вельмі дзеяла на карысьць Беларускага гаспадарства («Літвы»)[33].

## ПАЛАЖЭНЬНЕ СЯЛЯН

Расейскія чарнасоценцы цьвердзяць, што ў Беларускім гаспадарстве быў страшны ўціск сялянства. За забіўства селяніна быццам трэба было заплаціць толькі 3 рублі 25 капеек. Шляхціч мог жартуючы застрэліць селяніна. Вось выяжджае на паляваньне, хоча папрабаваць, ці добра б'е стрэльба, і страляе ў селяніна.

Зацемлю, што ў Беларускім гаспадарстве капеяк ня было. Але ня ў гэтым справа, а ў тым, што ўсё гэтае цьверджаньне — чыстая мана. Статут Літоўскі вуча, што чалавек простага стану ёсьць «Божае стварэньне» і, апрача галаўшчыны, вызначае шляхціцу кару сьмерці за ўбіўства селяніна. Вось вынятак зь І-га артыкулу XII разьдзелу Статуту 1588 г.:

«Паўсьцягаючы мы, гаспадар, сваволенства й зуфальства людзкія, каторыя ся ад часу ў людзях няўзьдзержлівых, без усякае баязьні Божае, аказуюць, з таго й кроў нявінную людзкую бяссорамна й нявінна ... разьліваюць і тым ня менш Пана Бога ку гневу на рэч паспалітую пабужаюць, уставуем: есьлі-бы каторы шляхціц, легца паважаючы права паспалітае а зьдзекуючыся над стварэньнем Божым, чалавека простага стану, ня шляхціча забіў, таковы шляхціч ... маець быці горлам каран, кром галаўшчыны».

## ДАЧЫНЕНЬНЕ ДА ЖЫДОЎ

Супроць усякага розуму часьць Жыдоў паддзержвае расейскі імпэрыялізм. Каб паказаць ім, што Расейцы бароняць Жыдоў і наладзіць іх супроць Беларусаў, чарнасоценцы лгуць, што яшчэ гарэй шляхта ў Беларусі зьдзеквалася над Жыдамі, чымся над сялянамі. Тымчасам у Беларусі «Асоба Жыда ўважалася за незачэпную. Забіўцу Жыда каралі сьмерцяй із забраньнем ягонае маемасьці. Рэлігійныя перакананьні Жыдоў бараніла права. Права забараняла клікаць Жыдоў да адказу і прынукаць іх плаціць даўгі ў жыдоўскія сьвяты»[34].

«Сьвабода месцкага жыцьця і прывілеі, даваня вялікім князем і магнатамі, прынадзілі да Вялікага Княства Літоўскага вялікую колькасьць Жыдоў. Яны мелі магчымасьць свабодна спаўняць свой рэлігійны культ, весьці гандаль і займацца рамёсламі»[35].

## ДАЧЫНЕНЬНІ БЕЛАРУСАЎ ДА МАСКОЎШЧЫНЫ-РАСЕІ

Як камуністычны Крэмль пры цяперашнім яго шавіністычна-расейскім курсе, так і чарнасоценцы цьвердзяць, што Беларусы свайго Беларускага гаспадарства адно толькі й думалі, каб задзіночыцца з Масквою-Расеяй і ня крыўды, але адно дабро дазнавалі ад гэтае.

Але гістарычныя факты й дакумэнты сьветчаць пра адваротнае. Адсылаю да таго, што падана ў мяне пра гэта ў «Савецк. хвальшаваньне» (б. 127—128), а тут адно пакажу, што зрабілі Маскоўцы зь Беларусяй у вайну 1654—1667 г. Бяру з «Нарысу гісторыі Беларусі», т. I, В. Шчарбакова. Зацемлю, што Шчарбакоў зусім ня беларускі ідэялёг.

«Маскоўцы — кажа Шчарбакоў — нішчылі ўсё чыста у Беларусі. «Надзвычай пацярпелі ў часе гэтае вайны: Ворша, Магілёў, Бабруйск, Мазыр, Быхаў, Імсьціслаў, Пінск, Тураў, Петрыкаў, Вільня і сьцяг іншых местаў. Ворша была блізу ўся выпалена ў першым годзе вайны. Вялізарная часьць Магілева была таксама выпалена й разгромлена ў студні-лютым 1655 г. Імсьціслаў быў падпалены і ўвесь згарэў із пажыткамі ў ім. Выпалены быў да званьня Пінск і акольныя сёлы ...

Вялізарная колькасьць войтаўстваў і цэлых паветаў у рэзультаце гэтае вайны былі ператвораныя ў пустыні. Іструбецкае, прыкладам, войтаўства Магілёўскага павету, паводля паведамленьня самога маскоўскага вайводы ў Магілеве, «мало не все пусто» сталася. Блізу цалком быў разгромлены Пінскі павет. У Асабецкім, прыкладам, войтаўстве Магілеўскага павету, да вайны сялян было 7000, «а ныне пусто», пісаў той-жа вайвода. Пры адступленьні маскоўскіх войскаў на іхнай дарозе нішчылася ўсё — дамы спальваліся, уся люднасьць уводзілася ў палон, пошар, што заставаўся, нішчыўся. У верасьні 1660 г. быў пасланы ўказ Даўгарукаму «пасляць ваенных людзей у паветы Дубровенскі, Аршанскі, Капыльскі, Шклоўскі, Магілеўскі, Крычаўскі з тым, каб яны забралі ў жыхараў збожжа, жывёлу, а сена й салому палілі без астачы» ... «Ваенныя людзі спаўнялі ахвотна гэты царскі ўказ, спадзяючыся ўзбагаціцца здабычай». Гэтак пісаў буржуазны гісторык Расіі Салаўёў.

Усё гэта прывяло да таго, што ўжо ў часе самае вайны ў шмат якіх мясцох ня толькі не заставалася ніякіх запасаў люднасьці, але й ня было чым карміць (маскоўскую) армію. «У Быхаве еміны ані няма, ваенныя людзі ядуць траву й коні» (б. 208—209).

Шчарбакоў падае жудасны абраз нішчэньня Маскоўцамі беларускага сялянства:

«Сяляне Аршанскага пав. у ваднэй із сваіх просьбаў (цару) пісалі ў гэтым часе: «Цяпер у нас, сіротаў тваіх жанкі й дзеткі ўсі бязь весьці зьгінулі, бо пабралі твае гасударовы вайсковыя людзі і разьвялі па розных палкох і да цябе, гасудару, пад Смаленск, і маемасьць, статкі ўсе ў нас і жывёлу і збожжа пабралі і дамкі папалілі, туляемся па лясох голыя й босыя, сядзім на пажарышчу, із сьцюжы, голаду чыста зьгінулі, зруйнаваныя да апошняга, а тых сваіх жоначак і дзетак іскаць ня сьмелі, усюды нас б'юць».

---

[24] А. Пресняков. Лекции по русской истории, II—I, б. 97.
[25] Там-жа, б. 155.
[26] Там-жа, б. 155—157.
[27] А. Савич. Нариси з історії культурних рухів на Україні та Білорусі в XVI—XVIII в., б. 25.
[28] В. Пичета. История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии, 1928, б. 80.
[29] Там-жа, б. 117.
[30] В. Дружчыц. Места Вільня ў першай палове XVI стг., (б. 123 (Чатырохсотлецьце беларускага друку, Менск, 1926).
[31] А. Савіч, там-жа, б. 28.
[32] М. Любавский. Очерки истории Литовско-Русского государства, б. 192.
[33] Голубцов. «Измена» Смольнян при Б. Годунове и «Извет» Варлаама, б. 222—231 (Рос. ассоциация научно-исследовательских институтов общественных наук. Институт истории. Ученые записки, т. V, Масква, 1929). Прыр. В. Мальцев. Борьба за Смоленск (XVI—XVII вв.), Смаленск, 1940, б. 246—247.
[34] В. Пичета. История сельск. хоз. и землевладения, б. 75.
[35] Тихомиров. История СССР, I, 1948, б. 85.

(Далей будзе)

# Пасьля 10-ці год савецкай катаргі, Фабіян Ярэміч памёр удома

Паводля нядаўна атрыманых пэўных вестак, Фабіян Ярэміч пацярпеў дзесяць год савецкай дэпартацыі ў Сібіры й памёр у сваім доме ў Віленскай Чыгуначкай Калёніі ад вылеву крыві ў мозгу.

Гэтая жалобная вестка была пераслана блізкай да сьв. пам. Ярэміча асобай у наступных словах:

«Пару гадзінаў таму атрымаў я вельмі сумную вестку. У нашай роднай старонцы памёр блізкі, дарагі й каханы Фабіян. У гэтай хвіліне цяжка мне навет пісаць аб гэтым. Жаль сьціскае сэрца, а рука адказваецца ад паслухмянасьці. Не хапае слоў, каб выказаць тое, што перажываю. Адыйшоў ад нас чалавек, якога я вельмі паважаў, любіў мо' навет больш, як бацьку. Любіў Яго за тое, што вельмі многа добрага зрабіў для мяне асабіста. Любіў за тое, што быў чалавекам добрым, самастойным, ахвярным і грамадзкім дзеячом, барацьбітом за свабоду, роўнасьць, братэрства і мучанікам за лепшую долю й будучыню Нашага Народу! Любіў Ён свой Народ, свой Край, для якога жыў, працаваў і за свой Край ды Народ шмат пацярпеў. Меў магчымасьць правясьці апошнія гады свайго жыцьця ў супакоі й выгодзе. Меў магчымасьць жыць разам зь сям'ёю, аднак любоў да роднага Краю, да сваіх людзей, да дарог і сьцежак, па каторых хадзіў і раздумваў, што трэба рабіць, каб было лепш — перамагла і вярнуўся да дарагіх ваколіцаў, каб там далей, хоць у адзіноцтве прабываць і калі ўжо не змагацца, то прынамсі лятуцець аб справядлівасьці й лепшай будучыні. Да апошняй хвіліны працаваў. Хацеў быць, як заўсёды, самастойным, незалежным і не хацеў нікога абцяжваць сваёю асобаю. Быў поўны веры й надзеі. Захопліваўся палётамі маладых людзей, якія змагаліся, як і Ён, за добрую справу. Быў і застаўся нязломным, непахісным, маладняцкім, вытрывалым у сваёй працы, змаганьні і ў сваіх перакананьнях. Ён можа быць прыкладам для будучых пакаленьняў, як трэба любіць свой Край, свой Народ. Імя Ягонае напэўна заўсёды будзе ўспамінацца з найбольшай, пашанай, на якую сабе заслужыў!

Усемагутны Божа! Дай Яму вечны супакой, а сьветласьць бязустанная няхай сьвеціць Яму вечна!

Няхай навакол месца Ягонага спачываньня вырастуць якнайпрыгажэйшыя краскі на Яго чэсьць і славу!.. Няхай вырастуць краскі надзеі, любові й веры ў лепшую будучыню!.. Няхай яны будуць Яму ўзнагародай за Ягоную працу й цярпеньні!..

Хаўтуры сьв. пам. Фабіяна адбыліся ў пятніцу 27 чэрвеня 1958 г. у Калёніі Каляёвай на ўзгорку каля касьцёла. Былі яны вялікай маніфэстацыяй. У хаўтурах удзельнічылі знаёмыя, прыяцелі, тыя нямногія з каторымі супрацоўнічаў, каторых узгадоўваў і іх дзяцей, а таксама дзеці тых, каторых узгадоўваў, але каторыя не маглі ўзяць удзелу у гэтым сумным абрадзе і аддаць Яму апошнюю прыслугу.

Гроб выбудаваны-вымураваны суседзямі. Родная дачка цяпер ня дзівіцца больш, чаму Ён не хацеў выяжджаць з Калёніі, бо сама пераканалася, што меў Ён там вялікую пашану, шмат прыяцеляў і вялікае значэньне».

Сьв. пам. Фабіян Ярэміч быў удзельнікам I Усебеларускага Кангрэсу, тры кадэнцыі беларускім паслом у польскім сойме, старшынёй Беларускага Пасольскага клюбу, спаўтворцай Беларускага Сялянскага Саюзу, спаўуласьнікам-закладчыкам Беларускай Друкарні імя Фр. Скарыны ў Вільні, сябрам Беларускага Нацыянальнага Камітэту, фінансаваў «Сялянскую Ніву», працаваў у беларускай адміністрацыі за часоў нямецкай акупацыі і інш.

У сваёй нацыянальна-палітычнай дзейнасьці меў ня мала цяжкасьцяў і закідаў ад сваіх праціўнікаў. Нажаль, Ён не пакінуў сваіх успамінаў. Чарга цяпер выказацца за тымі каторыя яшчэ жывуць і ведаюць сьв. пам. Ярэміча, як і шчырага беларускага патрыёта.

Няхай гэтыя першыя праўдзівыя весткі аб ягоным апошнім пэрыядзе жыцьця й ягонай сьмерці прычыняцца ў вольным сьвеце да адданьня належнай пашаны ягонай памяці як сярод сваіх, так і нашых нацыянальных прыяцеляў, каторых ён горача заахвочваў да ўзаемнага зразуменьня, і шчырага супрацоўніцтва!

**С-к**

## *Ліст у Рэдакцыю*

# Чаго-ж ламацца ў вадчыненыя дзьверы?

У нумарох 23, 24-25 і 26 «Бацькаўшчыны» быў надрукаваны вялікі артыкул М. Агнявіды п. н. «Этнаграфічны прастор Беларусі». Больш траціны артыкулу, бо ўвесь найвялікшы другі ягоны разьдзел п. н. «Суседзі нам межы пашыраюць, свае — звужаюць», было прысьвечана палеміцы з маей скромнай рэцэнзыйнай зацемкай п. н. «Лыжка дзёгцю», надрукаванай у нумары 10 «Бацькаўшчыны», на выдадзеную сёлета ў Нью Ёрку ў ангельскай мове брашуру «Дзень незалежнасьці Беларусі». Аўтар артыкулу М. Агнявіда, ён-жа, як мне добра ведама, і аўтар скрытыкаванае мною брашуры, бароначыся перад маімі закідамі, абвінаваціў мяне ў тым, што я, наперакор цьверджаньням навет расейскіх моваведаў, якія мову Пскоўшчыны называюць «пераходнай», залічаю яе быццам да мовы расейскай.

Вось пазьбіраныя з цэлага артыкулу М. Агнявіды закіды пад маім адрысам: **я адмаўляю мове Пскоўшчыны «і тых пэўных ужо найменш 50% беларускасьці, якія прызнаюць ёй выдатныя расейскія моваведы», называючы яе не расейскай, але «пераходнай»; я «катэгарычна адсякаю Пскоўшчыну ад беларускага моўнага прастору»; «У мяне «катэгарычнае цьверджаньне аб расейскасьці сучаснае Пскоўшчыны»; расейскі мовавед П. С. Кузьняцоў, называючы мову Пскоўшчыны «говорами переходными от средне-великорусских к белорусскому языку», «на сваёй карце не асьмельваецца далучыць Пскоўшчыны да расейскага моўнага прастору (як гэта робе сп. Ст. Станкевіч)»; «катэгарычная заява рэцэнзэнта аб расейскасьці Пскоўшчыны»; «сп. Ст. Станкевіч... сам у тэй-жа зацемцы «выпраўляе» на свой лад таго-ж Чэрных сваім неабаснаваным цьверджаньнем пра тое, што мова Пскоўшчыны сяньня расейская»; «сам катэгарычна адсякае ад таго-ж беларускага этнаграфічнага прастору больш за сто тысячаў квадратных кілямэтраў»; «Гэта дае поўнае права кажнаму, хто гэтага схоча, абаперціся на гэты артыкул, каб даводзіць, што Пскоўшчына — зямля расейская, бо-ж «гэтак цьвердзяць і самі Беларусы»; «артыкул гэты дык напэўна «можа даць козыр у рукі» (і дае) «для абгрунтаваньня сваіх прэтэнсіяў на беларускія землі» тым, якім на Пскоўшчыне залежыць».**

Ужо адно гэтае награмаджаньне й бесьперапыннае паўтараньне аднаго й таго самага павінна насьцярожыць аб'ектыўнага чытача й навесьці на думку, што, не знайшоўшы ў маей рэцэнзыйнай зацемцы матарыялу для вышэй сфармуляваных абвінавачаньняў, аўтар намагаецца стварыць яго сілаю галаслоўнае сугэстыі. I гэтак яно ёсьць узапраўды.

Аб мове Пскоўшчыны ў успомненай рэцэнзыйнай зацемцы я пісаў даслоўна наступнае:

**«Як ужо ўспаміналася, у кнізе Чэрныха выданьня 1952 году мова Пскоўшчыны названая «сярэдня-расейскай гутаркай» (як яна названая ў выданьні 1954 году — ня ведаем), а ў кнізе Кузьняцова — «гутаркамі пераходнымі ад сярэдня-вялікарускіх да беларускай мовы». Вось-жа навет гэтае апошняе абазначэньне мовы Пскоўшчыны, як пераходнай ад расейскай да беларускай, яшчэ не абазначае, што гэта мова беларуская. Што калісьці яна такой была, як мова пскоўскіх Крывічоў, гэта факт навукова даведзены, але ня ёсьць ужо такой сяньня».**

Кажнаму граматнаму наагул, а ня толькі ў пытаньнях моваведы, чалавеку ясна, што ў вышэй прыведзенай цытаце і я, падобна як Кузьняцоў і, хіба, Чэрных у сваей кнізе выданьня 1954 году, паддзержываў пагляд на сучасную мову Пскоўшчыны, як «пераходную», што «абазначэньне мовы як пераходнай ад расейскай да беларускай» (або навет ад беларускай да расейскай, што, на маю думку, бліжэй праўды), «яшчэ не абазначае, што гэта мова беларуская» і што маё абазначэньне сучаснай мовы Пскоўшчыны, як небеларускай, таксама не абазначае, **што яна расейская.** А таму катэгарычныя цьверджаньні М. Агнявіды, што я адмаўляю мове Пскоўшчыны «і тых 50% беларускасьці, якія прызнаюць ей выдатныя расейскія моваведы», што ў мяне «катэгарычнае цьверджаньне аб расейскасьці сучаснай Пскоўшчыны», што я «выпраўляю» на свой лад таго-ж Чэрных сваім неабаснаваным цьверджаньнем пра тое, што мова Пскоўшчыны сяньня расейская» і г. д., і д. г. п. (глядзі вышэй прыведзеныя цытаты з артыкулу М. Агнявіды), зьяўляюцца звычайным пустаслоўем.

На довад таго, што мой артыкул «напэўна можа быць выкарыстаны супраць Беларусаў», М. Агнявіда прыводзіць галоўна аргумэнт, што «ён напісаны Беларусам-навукоўцам». На гэта адкажу: якраз таму, што многія мяне ўважаюць за навукоўца і ў галіне моваведы і што наагул ня маю звычаю рабіць навуковых вывадаў наперакор аб'ектыўным фактам, як гэта практыкуе М. Агнявіда, я сяньняшняй мовы Пскоўшчыны ня мог назваць мовай беларускай, хоць яна й была такой у мінуласьці. Але нідзе не назваў яе і расейскай і навет ня даў падставы рабіць такога вываду з маіх разважаньняў.

Дык пашто-ж тады ламацца ў вадчыненыя дзьверы, спадар М. Агнявіда?

Мюнхэн, 20. 7. 1958.

**Ст. Станкевіч**

# Зь беларускага жыцьця

### КУПАЛЬСКАЯ РАДЫЯПЕРАДАЧА

Як і ў мінулыя гады, сёлета 11-га ліпеня вечарам а гадз. 9-й Канадзкая радыястанцыя СіБіСі передавала паўгадзінную праграму беларускіх купальскіх песьняў і танцаў у сувязі зь беларускім вечарам Купальля. У праграму увайшлі народныя песьні: «Купальле», «А ў купальскія ночы», «Сяньня купальле», «Сам ня знаю, ня ведаю», «Марфута» і «Што за месяц», ды наступныя мэлёдыі і танцы: «Юрачка», «Купалінка», «Бульба» «Крыжачок», адаптацыя на скрыпку з опэры Цікоцкага, выкананая сп-ром І. Раманавам, і «Лявоніха».

У канцэрце ўзяў удзел мужчынскі хор СіБіСі, дзявочы квартэт і паасобныя салістыя. Праграма трансьмітавалася на цэлую Канаду. Трэба заўважыць, што песьні былі музычна апрацаваныя амаль беззаганна, акрамя нярэдкага калечаньня харыстымі беларускае вымовы. Сп-ня Леся Зубрак, як і ў мінулыя гады, дапаўняла ўсе песьні і мэлёдыі ўдалымі камэнтарамі. Слухачы Беларусы на паўгадзінкі перанесьліся на далёкую бацькаўшчыну, ганялі ведзьмаў і русалак, жартавалі зь дзяўчатамі і хлапцамі, шукалі кветак папараці, скакалі цераз вогнішча, дзяўчаты пушчалі па рачной вадзіцы вянкі й варажылі аб будучыні.

Аб вялікай нашай удзячнасьці для СіБіСі і перадусім для сп-ра Раманава ня прыходзіцца лішні раз гаварыць. Варта толькі прыпомніць нашым родзічам у Канадзе, каб пісалі ў радыякарпарацыю лісты з падзякамі, сваймі заўвагамі пабеларуску ці паангельску ды дамагаліся, каб беларускія радыяперадачы былі ладжаны часьцей. Адрас СіБіСі ўжо колькі разоў падаваўся ў камунікатах ЗБК, дзякуючы стараньням якога і ладзяцца баларускія радыяперадачы народных песьняў. **М. К-р**

### У ПАРАХВІІ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў ТАРОНТА

Вялікім сьвятам для парахвіянаў парахвіі БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта быў дзень Пятра й Паўла. З гэтае нагоды ў сыботу (12. 7.) раніцою і ўвечары абываліся Багаслужэньні ў мясцовай царкве, адслужаныя а. Міхаілам.

Вечарам гэтага самага дня Парахвіяльная Рада зладзіла традыцыйны вечар-пачастунак псаломшчыку парахвіі — сп. Пётру Слаўку, на які зышлося шмат парахвіян. Імяніньнік вельмі цешыўся неспадзеўкамі ня толькі ад сваёй шматлікай сям'і, але й шматлікіх прыхажан, а самай-жа найбольшай з усіх была неспадзеўка ад а. Міхаіла, у знак удзячнасьці імяніньніку за актыўную падтрымку, супрацоўніцтва, дапамогу й ахвярнасьць БАПЦ.

Сп. Слаўко ўрачыста дэкляраваў усім прысутным, што, ня гледзячы на старасьць, ён яшчэ больш прыложыць стараньняў для дабра парахвіі, для дабра БАПЦ.

### ЛЁТАРЭЯ НА СЬВЕЖЫМ ПАВЕТРЫ

Днём пазьней, у нядзелю 13 ліпеня, на чарговым беларускім пікніку на гаспадарцы сп-ва Высоцкіх, была разыграная лётарэя, ладжаная парахвіяльнай Радай. У хуткім часе ўсе лётарэйныя білеты па дзесяць цэнтаў, пакрытыя вялікай колькасьцяй дробных выйгрышаў дамовага ўжытку, былі распрадаўныя. Прыбытак зь лётарэі прызначаны на фонд набыцьця большага будынку пад царкву.

**Таронтавец**

# *Супольны канцэрт у Мюнхэне*

16 ліпеня г. г. з нагоды 800-годзьдзя гораду на прапанову гарадзкое Ўправы ў Мюнхэне быў зладжаны супольны канцэрт народаў з-за зялезнае заслоны. У гэтым канцэрце ўзялі ўдзел Беларусы, Расейцы й народы Каўказу. Трэба адзначыць, што кажная нацыянальная група мела магчымасьць зладзіць свой асобны канцэрт, калі на гэта ёй дазвалялі дастатковыя артыстычныя сілы на запаўненьне вечару, што, між іншым, зрабілі Ўкраінцы.

Ад беларускай мюнхэнскай калёніі ў канцэрце ўзялі ўдзел ведамая нашаму грамадзтву опэрная сьпявачка с-ня Барбара Вержбаловіч і Галіна Ганчарэнка з акардыёнам. З прычыны абмежаванасьці ў часе, у беларускую праграму было ўключана дзьве салёвых песьні «Ой, арол, ты арол!» і «Цераз сад вінаград» ды адзін дуэт «Ці ўсе лугі пакошаны». Магчыма, у гэтым былі вінаватыя таксама й арганізатары канцэрту, бо расейская неасаблівая праграма была занадта расьцягнутая. У гэтым выпадку яны пралічыліся. Нашыя сьпявачкі былі вельмі добра прынятыя публікай і гэта ня толькі із-за прыгожых нацыянальных касьцюмаў. Добрае мастацкае выкананьне, мэлядыйнасьць, сум, вясёлыя, але ўмераныя жартаўлівыя ноткі нашых песьняў былі гэтаму прычынай. Бадай гэта была найпрыямнейшая частка канцэрту, бо нашыя паважаныя сьпявачкі змушаныя былі «ўкрасьці» яшчэ кавалак агульнага часу й прасьпяваць «на біс» яшчэ тры народныя песьні, спасярод якіх выдзялілася, і ня толькі на нашую думку, мастацкім выкананьнем і прыгажосьцяй ведамая песьня «Расьцьвіталі ў жыце васілёчкі». Гэта была запраўдная пэрла мастацкага вечару. Яна запраўды надзяляла прысутных Беларусаў нацыянальнай гордасьцяй за нашых удзельніцаў. Шчырае ім дзякуй ад беларускае мюнхэнскае калёніі.

**П. У.**

### ДА НАШЫХ СУПРАЦОЎНІКАЎ І КАРЭСПАНДЭНТАЎ

**Каб палягчыць працу рэдактароў «Бацькаўшчыны» й не абцяжарваць іх лішняй тэхнічнай работай, ветліва просім нашых супрацоўнікаў і карэспандэнтаў прысылаць, у меру магчымасьці, матарыялы да друку перапісаныя на машынцы кірылічным шрыфтам на адным баку паперы й з шырокімі інтэрваламі між радкамі.**

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**

# Беларускія жніўныя абрады

**(Заканчэньне з 3-яй бачыны)**

А мы з поля ідзём
Ды прыганятага клянём.
Ой мы свайму пану
Учынілі славу —
Бо выжалі жыта лаву.
Здароў, пане, жыта зжаўшы,
Каб ты здох не ляпятаўшы,
Не хварэўшы, не балеўшы,
Ды нашу працу еўшы».

Гэтыя словы аж надта сьветчаць аб цяжкім жыцьці жней-прыгоньніц. Песьняў падобных ёсьць нязьлічоная колькасьць ня толькі ў беларускім народзе, але ўсюды, дзе толькі быў прыгон і дзе трэба было працаваць на паноў.

Славамі жней прыгоньніц прамаўляе і наш слаўны паэта Янка Купала ў вершы «Песьня жней»:

«Пагнуўшы ў крук худыя сьпіны,
Сярпом махаючы крывым,
Мы, жонкі, ўдовы і дзяўчыны,
Пры доўгай постаці стаім.
І дружна жнём
І падаём
Адна аднэй
Ахвоты больш
І песьню жаласна пяём.

Асобна кажную загонам
Нас надзяліў пан-дабрадзей,
А над усімі злы аконам,
Стаіць, ганяе жаць барждзжэй.
Мы жнём, растуць снапы і мэтлі,
Мы жнём людзям; адно пабач:
Гаротным нам хоць лезь у петлі, —
Працуй на полі — дома плач.
Гэй, жнема, бабкі і дзяўчынкі,
Гаруйма: гора — не напасьць;
Пан справіць гучныя дажынкі:
За пот, кроў, сьлёзы — водкі дасьць!
Мы будзем піць,
Як гора п'ём,
Паноў хваліць
І дружна ім
Скрозь сьлёзы песьню прапяём».

Незалежна ад гэтага трэба сцьвердзіць, што ня гледзячы на быўшыя цяжкія палітычныя і нацыянальныя абставіны, у якіх народ наш быў на працягу вякоў — гэта прыгожае народнае сьвята, абрады, звычаі і песьні захаваліся з усёй сваёй красой і характвом, адлюстроўваючы ўсё жыцьцё беларукага селяніна і беларускай вёскі.

**П. Ластаўка**

# *Лісты ў Рэдакцыю*

Вельмі Паважаны Спадар Рэдактар!

Ветліва прашу зьмясьціць у паважанай газэце «Бацькаўшчына» зьмест майго лісту да Рэдакцыі «Беларускай Царквы», высланага 20. 7. 1958 г.

«З даручэньня Агульнага сходу сяброў Беларускага Аб'еднаньня Новай Паўдзённай Валіі ў Аўстраліі паведамляю, што людзі добрае волі, каталікі й праваслаўныя, узяўшы на развагу зьмест некаторых артыкулаў у часапісе «Беларуская Царква», прыйшлі да вываду, што такое брутальнае й абразьлівае трактаваньне рэлігійных справаў ня можа мець месца ў нашай дружнай беларускай сям'і. А часапіс «Беларуская Царква», які ў чытачоў выклікае толькі пачуцьцё нясмаку — не належыць распаўсюджваць. Дзеля гэтага прашу ня высылаць болей на маё імя часапіс «Беларуская Царква» (Падпісаў) Прэсавы Прадстаўнік на Н. П. В. у Аўстраліі: А. Васіленя».

З пашанаю **А. Васіленя**

Да Паважанае

Рэдакцыі «Бацькаўшчыны».

Не адмоўцеся, калі ласка, надрукаваць у найбліжэйшым нумары «Бацькаўшчыны» наступнае.

15 чэрвеня сёлета на зборцы Ньюёрскае Акругі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. К. Мярляк заявіў, што др. Янка Станкевіч аправіў «Каласкі» коштам Беларускага Школьнага Фонду.

Гэтым заяўляю, што ані на аправу «Каласкоў», ані на што іншае др. Янка Станкевіч ніякіх грошай зь Беларускага Школьнага Фонду ня браў.

З пашанаю **Б. Прытыцкі**

Скарбнік Беларускага Школьнага Фонду

Нью Ёрк, 23 ліпеня 1958 г.

### BELORUSSIAN REVIEW № 6

Выйшаў з друку «Беларускі Зборнік» № 6 у ангельскай мове Інстытуту для Вывучэньня СССР у Мюнхэне. Зборнік абыймае 136 бачын друку й зьмяшчае наступныя навуковыя артыкулы беларускіх і часткава іншанацыянальных аўтараў на беларускія тэмы: **1) Г. Няміга:** «Акадэмія Навук Беларускай ССР»; **2) П. Урбан:** «Беларускі супраціў савецкаму рэжыму»; **3) У. Глыбінны:** «Беларуская культура пасьля 2-ой сьветавай вайны»; **4) Алесь Беразьняк:** «Беларуская савецкая літаратура ў 1957 годзе»; **5) Антон Адамовіч:** «Да пытаньня антыбальшавізму Янкі Купалы»; **6) Язэп Барыц:** «Беларусь і стратэгічныя пляны Крамля»; **7) Сымон Кабыш:** «Саўнаргас і прамысловасьць Беларусі»; **8) Усевалад Галубнічы:** «Насельніцтва Беларускай ССР»; **9) А. Марговіч:** «Лінія Кэрзона й 2-ая сьветавая вайна» Рамана Якемчука (рэцэнзія); **10) Янка Запруднік:** «Камуніст Беларусі» №№ 6—12, 1957 (рэцэнзія).

Жадаючыя атрымаць гэты зборнік, як іншыя беларускія навуковыя выданьні ў беларускай і ангельскай мовах, могуць зьвяртацца паводля наступнага адрысу:

Institut zur Erforschung der UdSSR
Weissruthenische Redaktion
**München 22**
Mannhardstrasse 6.

# АБВЕСТКА

У часе 7-га Гадавога Зьезду Згуртаваньня Беларускай Моладзі ў Амэрыцы й 3-яй Сустрэчы Беларусаў Амэрыкі й Канады, 30-га—31-га жніўня ў Нью Ёрку адбудзецца вялікі

**КОНКУРС БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ ВОПРАТКІ**

Дзеліцца конкурс на дзьве катэгорыі: жаночая й мужчынская вопратка. Багатыя ўзнагароды ад арганізацыяў і прыватных асобаў.

Да ўдзелу запрашаем усіх.

За падробнымі інфармацыямі просім зьвяртацца паводля наступнага адрысу:

Byelorussian Youth Association of America
401 Atlantic Ave. Brooklyn 17, N. Y

Прыміце ўдзел у конкурсе, каб паказаць прыгаство беларускай народнай вопраткі!

**Галоўная ўправа ЗБМА**

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**